

магілёўскі
# Выбар

№ 7
Травень
2012 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

## ЧАМУ МАГІЛЁВУ НЕПАТРЭБНЫ ІНВЕСТЫЦЫІ?




Гаворка пра інвестыцыі, якія маглі быць скарыстаныя для рэінкарнацыі (ці прасцей гаворачы, для капітальнага рамонту і аднаўлення як мінімум 3-х мікраараёнаў, забудаваных у свой час так званымі “хрушчоўкамі”. Гэтыя дамы відавочна аджылі свой праектны тэрмін і для больш як 50-ці тысяч жыхароў сталіся своеасаблівай жыллёвай пасткай – яны маюць жытло, але жыць у такіх умовах практычна немагчыма. Дамы халодныя, працякаючыя, з небяспечнымі балконамі, без ліфтаў і з праблемамі дастаўлення вады на апошнія паверхі. Правамі жыхароў магілёўскіх мікраараёнаў яшчэ ў 2008 годзе пачалі апекавацца некалькі грамадскіх актывістаў, нарадзіўшых адпаведную грамадскую ініцыятыву і нават, можна сказаць, рух. Ад таго часу замоўчваць праблемы жыхароў “хрушчовак” і не звяртаць на іх увагі сталася больш праблемна для шлады, чым было дагэтуль. Таму прадстаўнікі гарвыканкама, так бы мовіць, дазволілі грамадскай ініцыятыве існаваць і выступаць на баку магілёўскіх насельнікаў састарэлых мікраараёнаў, іншым разам пад іхным націскам тамсям падлатваючы фасады і асфальтуючы двары…

Але ж ініцыятары змагання за правы жыхароў здолелі пайсці далей. Яны выйшлі, як гаворыцца, на замежжа. Праз два гады існавання ініцыятывы Магілёў наведалі прадстаўнікі двух краінаў – Галандыі і Чэхіі. У складзе дэлегацый былі сябры саюза галандскіх муніцыпалітэтаў і сябры савета чэшскіх гарадоў. Як чутна па назве іхных прадстаўніцтваў, гэта былі пасланцы такіх жа грамадскіх ініцыятываў і рухаў, што і магілёўскія змагары за правы мікраараённых насельнікаў. З той розніцай, зразумела, што ў іхных краінах ніякага замінання ініцыятывам грамадзянаў не існуе, а наадварот – такія грамадскія ініцыятывы падтрымліваюцца ўладамі, іхным удзельнікам прадастаўляюцца словы для выступаў на дэпутацкіх сесіях, яны ў першачарговым плане прымаюцца ў

(Пачатак. Закан. на стар. 2)

## ЛЕАНІД ЗЛОТНІКАЎ: У БЮДЖЭЦЕ НЯМА ГРОШАЙ НА ПАВЫШЭННЕ ЗАРОБКАЎ

Чыноўнікі абяцаюць бюджэтнікам сур’ёзнае павышэнне заробкаў. Паводле незалежных эканамістаў, гэта можа дорага каштаваць усёй беларускай эканоміцы.

1 траўня заробкі бюджэтнікаў узрастуць на 20 %, а тарыфная стаўка першага разраду павысіцца на 5 %. «Гэта вельмі дзіўна, бо, паводле апошніх афіцыйных звестак, у першыя два месяцы года бюджэт выкананы з дэфіцытам, то бок у бюджэце грошай няма», – заявіў эканаміст Леанід Злотнікаў у інтэрв’ю тэлеканалу «Белсат».

Тым часам, паводле ранейшых прагнозаў Міністэрства эканомікі, да канца 2012 г. сярэднямесячны заробак складзе крыху больш за 4 млн руб. Такія параметры закладзеныя ў разліковыя паказнікі сацыяльнай палітыкі, зацверджаныя пастановаю Мінэканомікі № 14 ад 15 лютага 2012 г. «Аб разліковых балансавых паказніках прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2012 год». Паводле прагнозу, у 2012 г. намінальны заробак вырасце на 71,4–72 % і складзе 3,216–3,227 млн руб.

(Пачатак. Закан. на стар. 2)



# ЧАМУ МАГІЛЁВУ НЕПАТРЭБНЫ ІНВЕСТЫЦЫІ?



(Заканэнне. Пачат. на стар. 1)

кабінетах выканаўчай улады. А маючы такі ўплыў і аўтарытэт, абодвы еўрапейскія дэлегацыі бралі на сябе вырашэнне некалькіх пытанняў для магілёўскіх партнераў. У прыватнасці, галандцы і чэхі гарантавалі падтрыманне прапановаў ад Магілёва па аказанню дакументальнай, праектнай, тэхналагічнай дапамогі ва ўсім комплексе рамонтных патрэбаў. Яны таксама бралі на сябе расходы на знаходжанне ў сваіх краінах магілёўскіх дэлегацый ад уладаў і адпаведных ведамстваў для знаёмства з практыкай і досведам аднаўлення мікрараёнаў і выцягвання іх на сучасны ўзровень зручнасцяў і ўмоваў жыцця, асабліва ў Чэхіі, дзе іхная "савецкая" улада таксама пакінула свой непрывабны след у горадабудаўніцтве. Грамадскім актывістам Магілёва ўдалося арганізаваць сустрэчу гасцей у аддзеле капітальнага будаўніцтва выканкама. Іх там прыхільна і нават цёпла сустрэлі. Гаворка зайшла і пра непасрэдныя фінансавыя інвестыцыі, калі ўшдасцца зацікавіць праектам супрацы бізнесоўцаў, што ўпаўне магчыма… На развітанне магілёўскія чыноўнікі прызналіся, што такія дамовы на супрацу з замежнымі структурамі выходзяць за іхную кампетэнцыю, і таму яны, магілёўскія чыноўнікі, будуць шукаць рашэнне і "будуць думаць…"

Думаюць, як не цяжка здагадацца дагэтуль, так і не маючы канкрэтнага рашэння на гэты конт. Актывісты, якія са свайго боку дагэтуль не згубілі надзеі на развіццё адносінаў з замежнікамі, для вяртання актуальнасці тэме скарысталіся тым, што Магілёў абвесціў грамадскае абмеркаванне Генеральнага плана свайго развіцця да 2030 года. У агалошаным праекце плана, як адразу заўважылі жыхары мікрараёнаў і актывісты абароны іхных правоў, месца для развіцця, рэканструкцыі ці хоць бы капітальнага рамонту ў тых мікраараёнах, не знайшлося. Праз іх па-просту перакрочылі. Актывісты распачалі збор подпісаў грамадзянаў пад зваротам да ўладаў аб недапушчальнасці такога ігнаравання іхных справядлівых патрабаванняў і роўных з усімі іншымі камунальных правоў. Першыя 60 подпісаў днямі грамадскі актывіст Віталь Макаранка аднёс, зафіксаваўшы іх па ўсёй форме, у гарвыканкам.

### Віталь Макаранка, грамадскі і палітычны актывіст:

- Мы не кідалі сваёй ініцыятывы ўвесь гэты час. Але варта адзначыць, што і адносіны з замежнікамі ўскладніліся, бо ім незразумелая пасіўнасць і няздольнасць нашых гарадскіх уладаў да самастойных рашэнняў і дзеянняў. Там, у сябе яны б даўно правялі агульнагарадскі рэферэндум і справа атрымала б падтрымку неабходную з усіх бакоў. У нас, на жаль, іначай. У нас гаворка пра так званую мясцовую самакіраванасць – небольш, чым гаворка, бо нічым гэта не падмацавана. Але мы не збіраемся здавацца і збаўляць ініцыяванасць у мікраараёнаўскіх праблемах. Будзем у прыватнасці збіраць подпісы, дамагаючыся, каб улада звярнула рэальную і дзейную ўвагу на больш як 50 тысячаў сваіх гараджанаў, што могуць быць пакінутыя паза клопатам дзяржавы аб "лепшым горадзе на Зямлі", як пра гэта паведамляюць у нас некалькі плакатаў і рэкламовых шчытоў. Горад не можа быць лепшым, ды хоць бы і якім іншым, без сваіх жыхароў, каму любы горад і абавязаны сваім развіццём, будаўніцтвам, добраўпарадкаваннем, роcквітам і поглядам у не такую і далёкую "светлую будучыню", што для Магілёва павінна наступіць да 2030 года… Вось чаму грамадскія актывісты і жыхары горада, якіх наша ініцыятыва аб'ядноўвае, маюць намер давесці ініцыятыву да пераможнага канца і станоўчай рэалізацыі.

**Віктар Войт**

## ЛЕАНІД ЗЛОТНІКАЎ: У БЮДЖЭЦЕ НЯМА ГРОШАЙ НА ПАВЫШЭННЕ ЗАРОБКАЎ




*Леанід Злотнікаў*

(Заканчэнне. Пачат. на стар. 1)

Паводле эксперта, гэта «рызыкоўная сітуацыя». «Сёлета ў дзяржавы бракуе грошай на тое, каб разлічыцца з вонкавымі пазыкамі. Паводле маіх разлікаў, каля 3 млрд долараў павінны невядома адкуль з'явіцца, каб мы разлічыліся з вонкавымі пазыкамі. У гэтай сітуацыі павышэнне заробкаў не можа быць забяспечанае ні ростам ВУП, ні прытокам валюты. Сітуацыя можа быць падобная на тую, што была летась: дэвальвацыя ды інфляцыя», – падкрэслівае Леанід Злотнікаў.

**belsat.eu**

**Анекдот дня**

…А напоследок, дорогой Изя, сообщаю, что письмо, в котором ты просиш денег, мы не получали.

*рэгіён*

## У ХОЦІМСКІМ РАЁНЕ ВЯСКОЎЦЫ АТРЫМЛІВАЮЦЬ ЗАРОБКІ НІЖЭЙ ЗА МІНІМАЛЬНЫЯ




Днямі ў Хоцімскім раёне Магілёўскай вобласці адбылося пашыранае пасяджэнне камісііі па справах непаўналетніх з удзелам кіраўніцтва раёна. У шэрагу іншых пытанняў была разгледжана праблема пакрыцця абавязанымі асобамі дзяржаве сродкаў, выдаткаваных на ўтрыманне дзяцей. Высветлілась, што абавязаныя бацькі проста не могуць пакрываць затраты на ўтрыманне дзяцей у сувязі з нізкім заробкам, бо 72 % з іх працуюць у сельскай гаспадарцы і іх заробак складае ад 200 тысяч рублёў.

У прыватнасці, вось што паведамляе інтэрнэт-сайт Хоцімскай раённай газеты “Шлях кастрычніка: “Как отметила в своём выступлении начальник управления по труду, занятости и социальной защите населения Галина Королёва, на низкий процент возмещения, конечно, влияет уровень заработной платы. Если учесть и тот факт, что 72% обязанных лиц работают в сельскохозяйственной отрасли. Заработная плата обязанных лиц колеблется от 200 тысяч рублей до 2 млн. 300 тысяч рублей. Относительно высокий уровень её в УКП “Жилкомхоз”, УЗ “Хотимская ЦРБ”, СПК “Октябрь-Берёзки”.

Грамадскі актывіст з Хоцімска Валерый Каранкевіч, які ў свой час працаваў кіраўніком гаспадаркі і першым намеснікам старшыні Хоцімскага райвыканкама, кажа, што зараз стан спраў з заработнай платай працаўнікоў вёскі ў бальшыні гаспадарак раёна проста катастрафічны.

“Правы сялян парушаюцца пастаянна. Мноства людзей атрымлівае заробкі ніжэйшыя за мінімальныя і раённыя ўлады пра гэта выдатна ведаюць, але нічога не робяць для выпраўлення сітуацыі, - распавядае Валерый Каранкевіч. – Стан спраў з выплатай і памерам зарабатнай платы ў бальшыні гаспадарак раёна ў зімовы перыяд проста катастрафічны, людзям, з маўклівай згоды дзяржаўных прафсаюзаў, плацяць літаральна капейкі. Каб неяк апраўдаць мізэрныя заробкі, ставяць рабочы час па 4-6 гадзін у дзень, да мільёна ніхто ніколі не даплочвае. Гэты факт прызнае нават начальнік упраўлення па працы Галіна Каралёва. Наогул, усе працаўнікі сельскагаспадарчай галіны ў Хоцімскім раёне цалкам бяспраўныя, а не толькі абавязаныя асобы, летам людзям хоць неяк дапамагае збор грыбоў і ягад, а зараз яны літаральна выжываюць, атрымліваючы некалькі соцен тысяч рублёў у месяц”.

***Іван Барысаў***

## ПРАКУРОР КРЫЧАЎСКАГА РАЁНА НЕ РЭАГУЕ НА ЗВАРОТЫ НЕЗАЛЕЖНЫХ ЖУРНАЛІСТАЎ



Ужо некалькі разоў журналісты газеты “Вольны горад” звярталісь да пракурора Крычаўскага раёна Ўладзіміра Трывайла з просьбай расказаць аб сітуацыі, якая склалась у Крычаўскім раёне па вынікам 2011 года па пытаннях барацьбы з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю, аднак адказу на свае запыты так і не атрымалі. Журналіст газеты “Вольны горад” Мікалай Гердзій прапанаваў пракурору асвятліць гэта пытанне нават не на старонках незалежнай газеты, а ў праўладнай раёнцы “Крычаўскае жыццё”. Аднак і ў гэтай газеце матэрыял аб стане барацьбы з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю ў Крычаўскім раёне так і не з’явіўся.

Як піша Мікалай Гердзій у артыкуле “Пракурорскія гульні?”, Уладзімір Трывайла кожны раз знаходзіў разнастайныя адгаворкі: “Падчас апошняй нашай сустрэчы каля двух тыдняў таму ён заявіў, што такую інфармацыю ў рэдакцыю “КЖ” даў, аднак не разумее, чаму рэдактар Т. Іўкіна яе не дае. Тлумачэнне больш чым смешнае. Мы, вядома, ведаем, што спадарыня Іўкіна здольна і на больш не адэкватныя ўчынкі, аднак… У дадзеным выпадку, хутчэй за ўсё, У. Трывайла проста не хоча публічна хлусіць, таму што сапраўдны стан спраў больш за страшненькі, і таму ён аддае перавагу “цягнуць гуму”.

*(Пачатак. Закан. на стар. 4)*

## СРЕДНЯЯ ЗАРПЛАТА РАБОТНИКОВ В МАРТЕ СОСТАВИЛА BR3 МЛН. 159 ТЫС. 624

В Беларуси начисленная средняя заработная плата работников в марте нынешнего года составила Br3 млн. 159 тыс. 624 (в феврале 2012-го — Br2 млн. 964 тыс. 249). Об этом сообщили корреспонденту БЕЛТА в Национальном статистическом комитете.

Начисленная средняя заработная плата рабочих и служащих в марте составила Br3 млн. 188 тыс. 47 (в феврале 2012 года она равнялась Br2 млн. 995 тыс. 685).

С каждым днём всё богатеем? Что-то верится с трудом…

## У МАГІЛЁЎСКІМ РАЁНЕ ДЛЯ ПРАФІЛАКТЫКІ ЗЛАЧЫННАСЦІ ПАДЛЕТКАЎ ВОЗЯЦЬ У СПЕЦШКОЛУ

У Магілёўскім раёне з мэтай прафілактыкі безнагляднасці і правапарушэнняў сярод падлеткаў іх пачалі вазіць у Магілёўскую спецшколу зачыненага тыпу. Своеасаблівая кампанія застрашвання падлеткаў адбываецца ў межах рэспубліканскай акцыі "Сябруем з законам".

У прыватнасці, як паведамляе інтэрнэт-сайт газеты "Прыдняпроўская ніва", днямі "у рамках рэспубліканскай акцыі "Сябруем з законам" у мэтах удасканалення працы па фармаванні прававой культуры вучняў, прафілактыкі безнагляднасці і правапарушэнняў сярод непаўналетніх" установу адукацыі "Магілёўская дзяржаўная спецыяльная школа закрытага тыпу" наведалі вучні ДУА "Хонаўскі ВПК ДС-СШ".

Падлеткі пазнаёміліся з раскладам дня, наведалі сталовую, спальню і класныя пакоі выхаванцаў школы. Аўтар артыкула



спадзяецца, што вучні зрабілі для сябе вывад, што "жыць і вучыцца лепш дома, у коле блізкіх і знаёмых людзей, і для таго, каб уласная свабода не была гэтак абмежаваная, патрэбна быць заўсёды законапаслухмяным грамадзянінам".

Адразу ўзнікае пытанне, як адаб'юцца на псіхіцы падлеткаў падобныя экскурсіі ў спецшколу закрытага тыпу. Сумна, што паважаныя дарослыя могуць уздзейнічаць на дзяцей, толькі пужаючы іх разнастайнымі пакараннямі.

*Ірына Беганкіна*

## У КЛІМАВІЦКІМ РАЁНЕ АБАВЯЗАНЫХ АСОБАЎ ПРАПАНУЮЦЬ АРЫШТОЎВАЦЬ

Пракурор Клімавіцкага раёна, малодшы саветнік юстыцыі Аляксандр Землякоў, ацэньваючы сітуацыю, якая склалася ў раёне, указаў на верагоднасць вяртання такой меры пакарання абавязаных асобаў, як адміністрацыйны арышт. Арыштоўваць будуць абавязаных асобаў, якія робяць прагулы па месцы асноўнай працы. Ініцыятыва пракурора прагучала падчас выязднога пасяджэння раённага каардынацыйнага савета, рэалізуючага выкананне Дэкрэта № 18 ад 24 лістапада 2006 года, якое адбылося ў філіяле ААТ "Клімавіцкі КХП "Прыгранічны".

Як паведамляе інтэрнэт-сайт Клімавіцкай раённай газеты "Родная ніва", узмацненне жорсткасці ціску на абавязаных асобаў звязана з тым, што сітуацыя з змяншэннем запазычанасці гэтых людзей за ўтрыманне іх дзяцей "як у цэлым па раёну, так і ў гэтай гаспадарцы выклікае крайнюю заклапочанасць".

Агульная сума запазычанасці абавязаных асобаў у Клімавіцкі раённы бюджэт за ўтрыманне іх дзяцей, знаходзячыхся пад апекай дзяржавы, па стану на 1 красавіка бягучага года складае больш 1 мільярда 392 мільёнаў рублёў. За першы квартал імі пакрыта толькі 38,8 % ад сумы, налічанай за 2012 год.

У 2012 годзе ў Клімавіцкім раёне толькі адна сям'я выказала жаданне аднавіцца ў бацькоўскіх правах. Зараз у раёне ў сацыяльна небяспечным становішчы знаходзяцца 48 сямей.

Безумоўна, вялікай сімпатыі гэтак званыя "абавязаныя асобы" не выклікаюць, аднак садзіць людзей за краты толькі за тое, што яны не выйшлі на працу, - вельмі нагадвае сумныя часы сталінскай "савецкай дэмакратыі". Бальшыня гэтых людзей пакутуюць на алкагалізм і патрабуюць лячэння, дапамогі для адаптацыі ў грамадстве, а не арышту.

*Багдан Іваноў*

## РОССИЯНЕ КРАДУТ НАШУ ВОДКУ

В деревне Техтин Белыничского района за совершение грабежа был задержан 24-летний неработающий гражданин Российской Федерации, проживающий у матери без вида на жительство.

Злоумышленник – большой любитель спиртного – открыто похитил с прилавка в магазине бутылку водки и поспешил скрыться. Возмущенная продавщица обратилась в милицию и подробно описала внешность частого посетителя магазина. Вскоре он был задержан сотрудниками Белыничского РОВД.

В отношении злоумышленника Белыничским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 206 ч. 1 УК Республики Беларусь – грабеж, которая предусматривает максимальную ответственность в виде лишения свободы на срок до 4 лет. После того, как россиянин понесет наказание за содеянное, он будет депортирован в Россию.

## ПРАКУРОР КРЫЧАЎСКАГА РАЁНА НЕ РЭАГУЕ НА ЗВАРОТЫ НЕЗАЛЕЖНЫХ ЖУРНАЛІСТАЎ

*(Заканчэнне. Пачат. на стар. 3)*

Па словах рэдактара газеты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага, інфармацыя аб стане барацьбы з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю ў Крычаўскім раёне па ранейшаму застаецца засакрэчанай і на сённяшні дзень, яна не была надрукавана ў газеце "Крычаўскае жыццё" да гэтага часу. Журналісты газеты "Вольны горад" лічаць, што пракурор Крычаўскага раёна не хоча даваць праўдзівую інфармацыю, каб не даваць чарговую нагоду журналістам незалежнага выдання распавядаць аб тым, хто знаходзіцца каля руля ўлады ў Крычаўскім раёне.

*Барыс Вырвіч*

# ЛАМАЦЬ — НЕ БУДАВАЦЬ, ДУША НЕ БАЛІЦЬ

Паводле заключэння начальніка галоўнага ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС Беларусі Эдуарда Нікіціна ў інтэрв'ю ад 3 студзеня 2012 года, размешчанага на сайце ГУБЭЗ МУС, найбольш крымінагеннымі ў нашай краіне з'уляюцца тыя сферы, дзе размяркоўваецца і асвойваецца найбольшая колькасць бюджэтных сродкаў. У першую чаргу гэта будаўніцтва, сельская гаспадарка, перапрацоўка...




Са словаў спадара Нікіціна, калі браць нават сярэднюю ацэнку карупцыйнага складніка ў 17% (згодна з ацэнкай міжнародных арганізацый, хабар у будаўніцтве вагаецца ў памерах ад 5 да 30%), можна канстатаваць, што, напрыклад, толькі за 2010 год у нашай краіне каля 730 мільярдаў рублёў бюджэтных грошай выведзены ў нелегальны абарот. А гэта ж крыху перавышае нават агульны кошт такога аб'екта, як «Мінск-Арэна», або роўны кошту 60 тыпавых панэльных дамоў у Мінску...

Па сцвярджэннях беларускіх уладаў, у нашай краіне надаецца належная ўвага развіццю сферы будаўніцтва, асабліва ў сельскай мясцовасці. З мэтай стварэння ўмоваў для прыярытэтнага сацыяльна-эканамічнага развіцця сяла, павышэння эфектыўнасці работы аграпрамысловага сектару кіраўніцтвам краіны зацверджана Дзяржаўная праграма ўстойлівага развіцця сяла на 2011-2015 гады. Усяго ў гэты перыяд у краіне з мэтай павышэння эфектыўнасці сельскагаспадарчай галіны павінна быць рэалізавана ажно 16 разнастайных праграм, пад выкананне якіх з дзяржбюджэту рэспублікі выдзяляюцца мільярды рублёў.

Згодна з Дзяржпраграмай развіцця сяла, ў сельскай мясцовасці за пяцігодку плануецца будаўніцтва 20 тысяч жылых дамоў і кватэр для працаўнікоў сельскагаспадарчай вытворчасці. У разрэзе абласцей планы выглядаюць наступным чынам: Брэсцкая — 4 тысячы, Віцебская — 2,7 тысячы, Гомельская — 4,25 тысячы, Гродзенская — 2,6 тысячы, Мінская — 4,2 тысячы, Магілёўская — 2,3 тысячы. За 2011-2015 гады плануецца капітальна адрамантаваць 184,9 тысяч кв.м. жылога фонду, размешчанага ў сельскай мясцовасці. На будаўніцтва, рамонт, мадэрнізацыю вытворчых аб'ектаў аграпрамысловага комплексу пад гарантыі аблвыканкамаў беларускімі банкамі толькі ў 2011 годзе былі выдзелены крэдыты ў памеры 582,6 мільярда рублёў. У тым ліку для Брэсцкай вобласці — 103,1 мільярда, Віцебскай — 132,4, Гомельскай — 54,6, Гродзенскай — 37,1, Мінскай — 50,2 мільярда. А львіная доля крэдытаў, у памеры 205,2 мільярда рублёў, выдзелены для Магілёўскай вобласці.

Падобная тэндэнцыя ў краіне назіралася і ў папярэднія пяцігодкі. Так, напрыклад, для будаўніцтва жылля на сяле ў 2005-2010 гадах было выдаткавана 2966,7 мільярда рублёў. А на добраўпарадкаванне, рамонт жылога фонду, аснашчэнне вытворчых баз ЖКГ — 709,1 мільярда.

Выдзеленыя за мінулыя гады фінансавыя сродкі па сваіх памерах павінны былі ўжо забяспечыць прыстойнае добраўпарадкаванне сельскіх населеных пунктаў і значна ўмацаваць вытворчую базу сельгаспрадпрыемстваў.

Але, на жаль, увачавідкі мы назіраем адваротную карціну, і асабліва — на Магілёўшчыне. Каб зразумець сапраўдны стан сучаснай беларускай вёскі, дастаткова звярнуць увагу на сітуацыю ў сельскіх населеных пунктах, размешчаных уздоўж некаторых аўтадарог, не кажучы ўжо аб тых, да якіх няма нават сучаснага праезду.

Своеасаблівым помнікам "клопату" беларускіх уладаў аб вяскоўцах, напрыклад, стала вёска Прыгані Круглянскага раёну, размешчаная ўздоўж аўтадарогі Бялынічы — Шклоў. За апошнія паўтара дзесятка год яна дайшла да такога стану, што творчым калектывам "Беларусьфільма" можна здымаць у ёй сюжэты аб падзеях часоў другой сусветнай вайны.

Ды і ў кожным раёне знойдзецца не па аднаму населенаму пункту, падобнаму на Прыгань. І гэта вёскі, якіх не зачапіла чорнае крыло Чарнобыльскай трагедыі.

Не выдзяляецца тут у лепшы бок сярод іншых і Шклоўскі раён, якому ў плане фінансавання ў апошнія гады надаецца асаблівая ўвага. Варта зазірнуць у

*(Пачатак. Закан. на стар. 6)*

# ЛАМАЦЬ — НЕ БУДАВАЦЬ, ДУША НЕ БАЛІЦЬ

(Заканчэнне. Пачат. на стар. 5)

вёску Славені, размешчаную непадалёк ад аўтатрасы Санкт-Пецярбург — Адэса, на мяжы з Аршанскім раёнам, дзе каля двух дзесяткаў год своеасаблівым помнікам стаіць недабудаваны 5-павярховы шматкватэрны дом. Ды і яшчэ некалькі шматпавярховікаў праз 2-3 гады застануцца без жыхароў, бо там у неспрыяльных умовах людзі жывуць ужо па некалькі год. Таму пры малейшай магчымасці яны разбягаюцца адтуль хто куды.

Непадалёку ад Славеняў, уздоўж той жа аўтатрасы Санкт-Пецярбург — Адэса, знаходзіцца і знакамітая на ўсю краіну вёска Гарадзец, дзе некаторы час у якасці дырэктара саўгаса працаваў Аляксандр Лукашэнка. Там можна пабачыць цікавую карціну, як побач з шыкоўнымі катэджамі ўжо на працягу больш дзесятка год зіяе пустымі вокнамі, нібы байніцамі, напалову разбураны двухпавярховы 16-кватэрны жылы дом.




Яшчэ цікавей выглядае жывёлагадоўчы комплекс уздоўж аўтадарогі Магілёў — Шклоў, непадалёку ад вёскі Дабрэйка Шклоўскага раёну, здадзены ў эксплуатацыю ў 2011 годзе. Ён дагэтуль не эксплуатуецца. А праблема ўся ў тым, што сродкі ў памеры 17 мільярдаў рублёў, выдзеленныя на закупку пагалоўя буйной рагатай жывёлы для запаўнення гэтага комплекса, зніклі са Шклоўскага раёну ў невядомым напрамку. Ды такім чынам, што на працягу ўжо некалькіх месяцаў беларускія следчыя не могуць знайсці нават іх следу.

Арыгінальна выглядае і падыход шклоўскіх чыноўнікаў да расходвання сродкаў, прадназначаных для рамонта аб'ектаў вытворчай базы сельгаспрадпрыемстваў. Да нядаўняга часу ў вёсцы Аўчыненкі, што каля аўтадарогі Бялынічы — Шклоў, стаяў дабротны двухпавярховы будынак млына. Тры гады таму мясцовыя ўлады яго адрамантавалі і нават стылізавалі пад "вятрак", прымацаваўшы крылы. Аб знакамітым млыне і млынару, які працаваў у ім, пісалі ў свой час газеты. Марыў пабываць на гэтым млыне , як пісала шклоўская раённая газета "Ударны фронт" ад 26 кастрычніка 1994 года, і першы Прэзідэнт Беларусі. Але калі да гэтай пары ён там не пабываў, то марам яго ўжо і не збыцца... У красавіку 2012 года млын разбурылі. Падкрэслю: разбурылі пасля таго, як сродкі былі ўкладзеныя ў рамонт гэтага будынка. Разбурылі нягледзячы на тое, што яго можна было выкарыстоўваць калі не па прамому прызначэнню, то, напрыклад, пры пераабсталяванні пад установу прыдарожнага сэрвісу або для нейкіх іншых мэт.

Адным слова, ламаць — не будаваць, душа не баліць (калі гэта не сваё ўласнае).

А сваё ўласнае чыноўнікі ўмеюць і берагчы, і памнажаць. І толькі дзіву можна давацца, як яны пры заробку каля 500 даляраў у месяц за 5-10 год узводзяць асабнякі коштам у сотні тысяч даляраў, ствараюць разгалінаваны сямейны бізнэс... Відаць, бедалагі, усё жыццё эканомяць ва ўсім, з голаду пухнуць. І зноўку тут наперадзе тыя, хто прайшоў праз Шклоўскі райвыканкам. Геаграфія будаўніцтва іх уласных аб'ектаў ахоплівае не толькі Шклоў, а і Магілёў, Мінск, іншыя рэгіёны краіны...

Можа, начальнік ГУБЭЗ МУС пры вызначэнні сярэдняга карупцыйнага складніка ў памеры 17% проста памыліўся?

Спадар Нікіцін, відаць, гэты паказчык вам неабходна пералічыць, бо інакш атрымліваецца, насуперак відачовнаму, што міжнародныя стандарты на Беларусі не дзейнічаюць.

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ***

# ОДИН ИЗ МНОГИХ «ЗАПУЩЕННЫХ» ЗАВОДОВ

Когда Александр Лукашенко шёл во власть, то в предвыборной программе будущего президента было и такое обещание: «Запустить заводы». После памятного 1994 года он «запустил» столько предприятий и организаций, что перевыполнил программу с лихвой. В Климовичском районе в этом плане особенно показательна судьба ЗМИ — Климовичского завода металлоизделий. Давайте вспомним, как это было.

На том месте, где сейчас расположены опустевшие корпуса завода, производственная деятельность была организована ещё в довоенные времена. В 1926 году здесь построили небольшую электростанцию и лесопилку, а несколько позже дополнительно открыли столярный цех и мельницу. После войны в ходе восстановления разрушенной промышленности района на этой территории организовали райпромкомбинат. В 50-е годы на комбинате целенаправленно расширяют направления деятельности, а с 1958 года начинают заниматься металлообработкой. Так появился ЗМИ, ставший одним из важных предприятий района.

Начинали с выпуска простой и несложной в изготовлении продукции — гвозди, школьные парты, детские санки. Согласно отчетам, в 1965 году было изготовлено более 8 тысяч парт, 60 тысяч санок, около 1400 бетонных колец для колодцев. Коллектив предприятия составлял 163 человека. В этом же году впервые начался выпуск фирменной продукции — детских колясок. Вначале пробная партия составила всего 100 штук. Но со временем и количество и ассортимент значительно выросли. На ЗМИ разработали несколько видов колясок — от обычных вариантов до комбинированных и портативных. Пик их производства пришёлся на 1988-1989 годы. Тогда с заводского конвейера ежегодно отгружали заказчикам до 100 тысяч колясок.



*Климовичский завод металлоизделий*

После распада Советского Союза и прихода к власти Лукашенко завод стал сдавать свои позиции. Выпуск продукции серьёзно сократился, товарный ассортимент также упал до минимума. На предприятии перебивались случайными заказами вроде партии дорожных знаков или мебели для районного отдела образования. Стал стремительно сокращаться коллектив, люди покидали предприятие. В 1999 году районная газета следующим образом охарактеризовала ситуацию на ЗМИ. Было написано, что завод находится почти в коме. Но районные власти обещали исправить положение, изредка давали кредиты, находили возможность для отсрочки по платежам.

В 2004 году на ЗМИ насчитывалось уже немногим более 40 работающих. Завод погряз в долгах и убытках, за хроническую неуплату отключили даже электроэнергию. Холодные производственные цеха пустовали, работ практически не проводилось. Делегация из райисполкома во главе с председателем Виталием Гришановым сообщила коллективу, что только за последний год убытки завода составили 60 миллионов рублей. Было допущено снижение планового задания: по производству промышленной продукции — в 5 раз, по потребительским товарам — в 8 раз, по розничному товарообороту — в 96 раз. Фактически производство на предприятии было парализовано. В качестве итогового вывода председатель райисполкома Виталий Гришанов подчеркнул, что на заводе «работают наши люди, которым необходимо помочь найти выход из сложившейся ситуации».

В следующем 2005 году выход был «найден». Завод металлоизделий прекратил своё существование.

**Михаил ПЕТРОВ**

## МАГІЛЁЎСКІЯ АКТЫВІСТЫ АГП ЗА СУМЛЕННЫЯ ВЫБАРЫ БЕЗ ЛУКАШЭНКІ

У якасці пачатку кампаніі “За сумленныя выбары без Лукашэнкі!” актывісты Аб’яднанай грамадзянскай партыі падалі дзве заяўкі на пікеты ў мясцовы гарвыканкам. Сярод месцаў для правядзення пікетаў пазначаны Савецкая плошча і пляцоўка каля Дыягнастычнага цэнтра.

Лідар Магілёўскага АГП Уладзімір Шанцаў гаворыць, што актывісты наўмысна вырашылі правесці пікеты ў недазволеных уладай месцах.

“Па-першае, на адзінае месца ў горадзе на стадыёне “Хімік”, дзе дазваляецца правядзенне пікетаў, ніхто з гараджан не ходзіць, а па-другое, улада праводзіць мерапрыемствы там дзе хоча і не плаціць за іх нічога. Мы жа абавязаны за іх плаціць і атрымліваць адпаведныя дазволы. Дзе тут справядлівасць? Гэта можна назваць толькі амаральнымі ўчынкамі ўлады”, - гаворыць Уладзімір Шанцаў.

Кіраўнік Магілёўскай АГП таксама кажа, што праз распачатую кампанію актывісты іх партыі будуць дамагацца, каб Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь была аднолькава для выканання як для ўлады, так і для народа.

***spring96.org***




# КОГДА В ХОТИМСКЕ ОБОРУДУЮТ МИНИ-РЫНОК?

Сколько уже написано и сказано о бездеятельности местной власти, о ее нежелании помочь людям в решении элементарных вопросов в нашем Хотимском районе, а воз и ныне там. Еще больше высказано об отсутствии желания со стороны этой же власти украсить архитектурно наш городской поселок и о пустых обещаниях, постоянно даваемых ей жителям Хотимска. Сколько можно муссировать вопрос о мини-рынке? Сколько можно писать о нем? Сколько можно смотреть на этот бардак? Или власти это не нужно? Или она не знает положения дел по этому вопросу? Ведь у чиновников из Хотимского райисполкома у всех есть глаза, или с высоты государственных машин не видно, что творится на нашем Хотимском мини-рынке?

Мне лично часто приходится встречаться с частными предпринимателями, которые ведут торговлю на мини-рынке, расположенном у торгового центра «Настя». Я постоянно выслушиваю негативные мнения торгующих там людей и покупателей, вижу сам, в каких антисанитарных условиях приходится работать людям. К сожалению, представители местной власти не видят этих проблем, хотя вопрос неоднократно поднимался на страницах газеты «Беларускі Ўсход”.

Чем вызвано такое нежелание разговаривать с людьми и видеть их трудности, для меня лично является загадкой. Ведь гораздо проще благоустроить злосчастный мини-рынок и давно решить проблему. Но местные власти проявляют бесхребетность в решении этого простого вопроса, вместо того, чтобы создать приемлемые условия для предпринимателей и покупателей.



***Валерий Коронкевич***

Я думаю, что в данной ситуации проигрывают все. Давно уже пора найти хозяина этого мини-рынка и благоустроить его на должном уровне, чтобы с нас не смеялись приезжающие к нам гости из других районов. И чтобы в людских сердцах осталась хорошая память о том руководстве Хотимского района, благодаря которому появился благоустроенный, удобный для работы и посещения жителями района мини-рынок.

***Валерий Коронкевич***

## В МОГИЛЕВСКОЙ ОБЛАСТИ РАСПРОДАДУТ КОЛХОЗЫ

В Могилевской области могут быть выставлены на продажу контрольные пакеты сразу семи сельскохозяйственных предприятий. Они внесены в областной план приватизации на 2012 год.

Согласно данным Могилевоблимущества, опубликованным на официальном сайте территориального фонда, в текущем году у местных властей появилось желание привлечь инвестора на сельскохозяйственные угодья Могилевского, Бобруйского, Горецкого, Климовичского, Мстиславского и Шкловского районов.

магілёўскі Выбар

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 02.05.2012 г. у 22-00.